Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

2 - 8 мая 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ.

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№18 (106)

ПАЧАЛАСЯ ПАДПІСКА на другое паўгоддзе.

Нашых чытачоў ізноў чакаюць

ПРЫЕМНЫЯ неспадзяванкі і прызы!

# Жыве Беларусь!

## Пра тое, чым і як жыве Беларусь, у прыватнасці маленькі яе кавалачак у невялікі адрэзак часу, вы можаце прачытаць сёння на 2-й старонцы.

на 2-й старонцы

## Расклад руху

прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна з 26.04.97 г.

| Мал. Адпр. | Мінск Прыб. | (Без прып) | Мінск Адпр. | Маладз. Прыб. |
|---|---|---|---|---|
| | | **Па рабочых днях** | | |
| 4-32 | 6-17 | Селівонаўка | 4-26 | 6-00 |
| 5-30 | 7-16 | | 5-03 | 7-04 |
| 6-08 | 7-49 | Сел., Крын., Ласі | 6-35 | 8-08 |
| 6-31 | 8-19 | | 6-49 | 8-19 |
| 7-29 | 9-17 | | 7-38 | 9-33 |
| 8-24 | 10-12 | | 8-15 | 10-03 |
| 8-59 | 10-47 | | 9-00 | 10-47 |
| 9-54 | 11-42 | | 9-54 | 11-41 |
| 10-41 | 12-29 | Леб. | 11-04 | 12-51 |
| 12-36 | 14-20 | птн., Сел.,Ан.,Леб.,М.М. | 12-00 | 13-48 |
| 12-55 | 14-43 | | 12-55 | 14-42 |
| 13-40 | 15-30 | | 13-39 | 15-26 |
| 14-34 | 16-23 | | 15-02 | 16-40 птн. |
| 15-31 | 17-19 | | 15-40 | 17-24 |
| 16-31 | 18-16 | Леб. | 16-15 | 18-02 |
| 17-20 | 18-57 | Сел., Рам., Ан.,Хм., М.М | 16-56 | 18-52 |
| 17-50 | 19-35 | | 17-44 | 19-29 |
| 18-35 | 20-21 | | 18-30 | 20-14 |
| 19-16 | 20-58 | Сел., М. Мора, Леб. | 19-16 | 21-00 |
| 19-55 | 21-40 | Леб. | 20-13 | 22-06 |
| 20-38 | 22-23 | Леб. | 21-14 | 22-58 |
| 22-17 | 23-56 | Леб., Сел., М. Мора | 22-15 | 23-59 |
| | | **Па выхадных днях** | | |
| 4-32 | 6-17 | Сел., Леб. | 4-26 | 6-00 |
| 5-30 | 7-18 | | 5-03 | 7-04 |
| 6-08 | 7-49 | Сел., Крын., Ласі, Леб. | 6-35 | 8-08 |
| 6-31 | 8-19 | Леб. | 6-49 | 8-10 |
| 7-26 | 9-05 | Рам., Ан., Хм.,Зял., Крыж. М.М. | 7-40 | 9-19 |
| 8-23 | 9-48 | Сел., Кр., Ласі Рам., Прал., Вяз., Ан. Хм., Зял., Крыж., Рат. | 8-21 | 9-59 |
| 8-50 | 10-29 | Рам., Прал., Ан., Хм. | 9-10 | 10-45 |
| 9-48 | 11-33 | | 9-48 | 11-20 |
| 10-37 | 12-11 | Рам., Вяз., Ан., Хм., Зял., Крыж., М. М. | 10-39 | 12-12 |
| 11-42 | 13-30 | | 11-13 | 12-51 |
| 12-36 | 14-14 | Сел., Хмел., М. Мора | 12-00 | 13-44 сб. |
| 13-21 | 15-06 | | 12-58 | 14-42 |
| 14-13 | 15-48 | Рам., Вяз., Ан., Хмел., Зял., М. Мора | 13-56 | 15-32 |
| 15-00 | 16-36 | сб.,Рам., Ан., Хмел. Зял. Крыж., М. Мора | 14-55 | 16-39 |
| 15-29 | 17-04 | Сел., Вяз., Ан., Хмел. Крыж., М. Мора | 15-45 | 17-21 |
| 16-30 | 18-06 | Рам., Вяз., Ан., Хмел. Крыж., М. Мора | 16-15 | 17-59 |
| 17-03 | 18-36 | Сел., Крын., Рам., Вяз., Ан., Хмел., М. М, Леб. | 16-41 | 18-13 |
| 17-53 | 19-32 | Рам., Вяз., Хм., Зял., Леб. | 17-35 | 19-08 |
| 18-36 | 20-11 | Рам., Вяз., Ан., Хмел. Крыж., М. Мора, Леб. | 18-38 | 20-12 |
| 19-05 | 20-40 | Рам., Ан., Хмел., Зял., Крыж., М. Мора, Леб. | 19-14 | 20-51 |
| 19-52 | 21-39 | М. Мора, Леб. | 20-03 | 21-37 |
| 20-38 | 22-23 | М. Мора, Леб. | 21-14 | 22-58 |
| 22-17 | 23-56 | Сел., М. Мора, Леб. | 22-15 | 23-59 |

| Маладзечна | Гудагай | Гудагай | Маладзечна |
|---|---|---|---|
| 8-35 | 10-20 штодз. | 5-20 | 7-01 шт. |
| 13-21 | 15-09 вых. | 10-38 | 12-17 штодз. |
| 15-40 | 17-21 штодз. | 15-32 | 17-16 вых. |
| 17-44 | 19-29 штодз. | 17-39 | 19-20 штодз. |
| 20-32 | 22-18 штодз. | 19-51 | 21-32 штодз. |
| **Маладзечна** | **Крулеўшчына** | **Крулеўшчына** | **Маладзечна** |
| 7-18 | 9-38 вых. | 4-35 | 6-55 штодз. |
| 8-32 Полацк | 13-13 штодз. | 10-00 | 12-20 вых. |
| 12-40 | 14-59 вых. | 15-32 | 17-39 вых. |
| 20-44 | 23-15 штодз. | 17-14 Пол. | 19-40 штодз. |
| **Маладзечна** | **Ліда** | **Ліда** | **Маладзечна** |
| 7-32 Багд. | 9-04 вых. | 3-55 | 7-10 штодз. |
| 8-44 | 11-53 штодз. | 9-26 Багд. | 11-03 вых. |
| 12-33 | 15-42 вых. | 9-02 | 12-27 штодз. |
| 16-28 Юрац. | 18-34 пт., ндз. | 12-03 | 15-20 вых. |
| 17-58 | 21-26 штодз. | 15-59 | 19-17 штодз. |
| 20-37 | 23-50 штодз. | 19-29 Юрац. | 21-45 пт., ндз. |

**З 1.06 уводзіцца летні расклад. Сачыце за "РГ".**









## 5 мая — Дзень друку

### Са святам, калегі!

***Журналіст швец і на дудзе ігрэц. Асабліва, калі ён з Валожына***

**Ірына ПАШКЕВІЧ** 3 гады таму пачала займацца фларыстыкай. Мабыць, бог захацеў,— лічыць абаяльная жанчына, бо дакладна не памятае, з чаго пачалося захапленне. Ёй ужо выканана 130 работ-пейзажаў, партрэтаў; выстаўлялася ў Валожыне, Івянцы, Мінску. Летам, увосень яна разам з агуркамі ды варэннем нарыхтоўвае шмат іншых прадстаўнікоў расліннага свету. Аднойчы прынесла дамоў мех пялёсткаў. Сухое лісце чакае свайго часу ў канвертах, кнігах— каб затым стаць творам мастацтва.

**Наталля ШТЭЙНЕР** акрамя іншага— старшыня аддзялення дзіцячага фонду. На грамадскіх пачатках дапамагае адпраўляць дзяцей на аздараўленне, для маленькіх праводзіць святы, разглядае скаргі дарослых (дзякуй Богу, іх амаль няма).

**Таццяна ШАБЛЫКА** заўсёды знаходзіцца ў духоўным пошуку. Цікавілася агні-ёгай. Тры гады выкарыстоўвае прынцыпы сістэмы Парфірыя Іванова— два разы на дзень з сынам-другакласнікам абліваецца халоднай вадой, імкнецца як мага больш хадзіць па зямлі басанож. Лекі для сям'і Шаблыкаў непатрэбныя.

***Калектыў "РГ" віншуе усіх сваіх калег з рэгіёна з прафесійным святам.***

## Навіны

### Спыніся, ласун

***ІВЯНЕЦ. Кандытарская фабрыка ў сярэдзіне красавіка прадставіла на рэспубліканскую дэгустацыйную камісію 2 віды карамелі з фруктова-ягаднай начынкай, з выкарыстаннем натуральных ягадных дадаткаў.***

"Лясное возера" з сунічным і "Лета" з клубнічным і малінавым смакам зацверджаны камісіяй. Аднак ад першага этапу да апошняга— укараненне ў вытворчасць— шлях няблізкі. Наперадзе афармленне дакументацыі, зацвярджэнне рэцэптуры, распрацоўка маляўнічай этыкеткі.

Летась на фабрыцы запусцілі ў вытворчасць шэсць новых відаў цукерак. Навінкі з'яўляюцца штогод і радуюць ласуноў. А распрацоўшчыкі чаруюць над новымі гатункамі прысмакаў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Лінг едзе. Грошы прывязе?

***СМАРГОНЬ. Чакаецца, што неўзабаве прадпрыемствы горада наведае прэм'ер-міністр С. Лінг.***

Мінулай восенню Міхаіл Чыгір бываў на ВА ЗАС, агрэгатным заводзе. Гігантам патрэбныя грошы, і яны разлічвалі на дапамогу. І цяпер, хутчэй за ўсё, размова будзе весціся вакол грошай.

Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, на прамысловых прадпрыемствах Смаргоншчыны аб'ём выпускаемай прадукцыі ўзрос на 47,7 працэнта ў параўнанні з леташнім I кварталам. Палепшыліся фінансавыя паказчыкі на агрэгатным, хаця існуе праблема са збытам— прычэпы, матаблокі, міні-трактары рэалізуюцца не так хутка, як хочацца. ЗАС рыхтуецца да эксперыменту па выпуску новай прадукцыі— этыкеровачнага чатырохпазіцыйнага аўтамата. Серыйная яго вытворчасць (прыблізна 10 аўтаматаў у год) поўнасцю павінен змяніць у добры бок сітуацыю на аб'яднанні.

*Аддзел інфармацыі.*

### Местачкоўцы ў свеце

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Споўнілася 610 год мястэчку Лебедзева, пунктам адліку біяграфіі якога служыць першае ўпамінанне аб ім у грамаце князя тагачаснай беларускай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага, Ягайлы.***

Гонарам беларускай нацыі сталі многія яго ўраджэнцы. Сярод іх таленавіты мастак Раман Семашкевіч, закатаваны ў засценках НКВД, выпускнікі мясцовай школы гісторык Генадзь Каханоўскі, прафесар МДУ Яўген Шыраеў, паэт Рыгор Семашкевіч, вядомы за межамі краіны аграрый Уладзімір Калачык.

*Алесь ЦАДКО.*

## Забастоўкі

### Апошняя надзея пралетарыяту

***"Гонарам горада з'яўляецца станкабудаўнічы завод, які за апошнія гады значна павялічыў свае магутнасці. Працоўны калектыў увесь час удасканальвае тэхналогію вытворчасці, асвойвае выпуск новых сучасных станкоў."***

*Зборнік "Маладзечна", выдавецтва "Беларусь", 1988 г.*

Сёння станказавод апынуўся ў складанай сітуацыі. З рабочымі яшчэ не поўнасцю разлічыліся па зарплаце за студзень. Такой запазычанасці на іншых гарадскіх прадпрыемствах, здаецца, няма. Напярэдадні Вялікадня работнікі ад 7 раніцы сабраліся на тэрыторыі завода. Вяліся размовы, каб наогул не прыступаць да работы, пакуль адміністрацыя не выплаціць грошы. Забастоўка мусіла прыцягнуць увагу грамадскасці. Паўгадзіны ішлі перагаворы з адміністрацыяй. Прафсаюзны камітэт азнаёміў калектыў з заканадаўчымі актамі аб правядзенні забастоўкі. Бо без папярэдняга абмеркавання ў працоўных калектывах яна будзе незаконнай.

Дырэктарат паабяцаў на працягу дня поўнасцю выплаціць зарплату за студзень і 30 працэнтаў за люты— што і было зроблена. Людзі прыступілі да работы і адначасова праводзілі сходы ў цэхах, аддзелах, вылучалі кандыдатаў на агульназаводскую канферэнцыю. Пасля абеду яна пачалася. Як паведамілі ў прафкоме завода, не хапіла пару галасоў, каб праводзіць забастоўку. Людзі разышліся на святочныя канікулы, якія, магчыма, працягнуцца да 12 мая. Што будзе потым, невядома. Аб'ём работы на заводзе ёсць. Ды і грошы "праглядваюцца".

— Можа, сакавік і закрыем,— лічаць у прафкоме.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Жыве Беларусь!

**У мінулыя выхадныя, калі праваслаўны люд святкаваў Вялікдзень, мы, брыгада журналістаў з "Рэгіянальнай газеты", дапамаглі ажаніць (граху не было, бо падзеі адбываліся ў каталіцкім краі) уласнага карэспандэнта нашага выдання па Гродзенскай вобласці Мар'яна Вянгроўскага.**

## Спачатку было слова

Спачатку было слова Мар'яна. Нататкі з вёскі Дравянікі на Астравеччыне за подпісам "Мар'ян Вянгроўскі" пачалі з'яўляцца ў пошце нашай рэдакцыі ўжо хутка пасля стварэння "РГ". Сталасць меркаванняў, дасціпнасць, трапнасць выразаў сведчылі аб найбагатшым жыццёвым вопыце нашага добраахвотнага памочніка. Хацелася найхутчэйшай з ім сустрэчы.

## Пасля зноў было слова

На гэты раз слова па тэлефоне. Мар'ян Іванавіч абяцаў прыехаць у Маладзечна. Мы пачалі чакаць.

## Потым была сустрэча

Ба! І гэта ты, Марэк? Мар'ян Іванавіч аказаўся проста Мар'янам. Хлопцам, які толькі нядаўна адслужыў у войску, пайшоў працаваць у леспрамгас, а вышаўшы з лесу і ўбачыўшы "Рэгіянальную", звязаў з ёй свой лёс. Пасля, усё ж, як аказалася, ён звяжа лёс не з "Рэгіянальнай газетай", а з Жаннай Петрык (хаця мы не крыўдуем - рэд.).

## Потым была яшчэ адна сустрэча

І сустрэча на зямлі Астравецкай - на станцыі Гудагай. Калі вам давядзецца ехаць з боку Маладзечна ў бок Вільні на прыгарадным цягніку Маладзечна-Гудагай, каб ажаніць каго ці выдаць замуж, можаце скарыстаць наш вопыт. Купляйце ў Маладзечне білет да прыпынку Скрасціны (бо да Гудагая без астравецкай прапіскі ці спецыяльнай адзнакі ў пашпарце аніяк вам білета не прададуць). Гэта вам абыдзецца ўсяго ў адзінаццаць тысяч дзвесце рублёў. На прыпынку Скрасціны вам трэба выйсці з цягніка і па шпалах (кіламетраў усяго з дзесятак) ісці ў напрамку граніцы. Калі для вас гэты варыянт падыходзіць, але не зусім, заставайцеся ў цягніку, дзе вам кандуктар адразу прапануе купіць білет да Гудагая. За тры тысячы дзвесце руб. На кожную пару чалавек. На нас, праўда, рулька з білетамі па тры дзвесце скончылася і мы купілі квіткі па тры тысячы. Чым засталіся задаволенымі роўна на сто рублёў. Кожны.

Калі вы кіруецеся на вяселле ў бок Дравянік (варыянт указальніка пры дарозе - Дрэвянікі), у Гудагаі па правы бок дарогі вас павінны чакаць на "Жыгулях", "шасцёрцы". Як разам з сустракаючымі вас збярэцца сем чалавек - не бяда. Вопыт паказаў: важна, каб было жаданне трапіць на вяселле. Яно ў нас было.

Ура! Мы ў Дравяніках!

## Дравянікі

Невялічкая вёска двароў на сорак выскоквае з-за пагорачка ў лагчыне хутка. Усяго восем кэмэ ад станцыі Гудагай. Пры абследаванні мясцовасці (на другі дзень вяселля) высвятляецца, што дубровы ў ваколіцах Дравянік былі з'явай самай звычайнай. Яшчэ і сёння магутныя волаты парасківаныя па ўзлесках і на дагледжаных палях. Ніякія калгасныя парадкі не знішчылі тут духу свабоды і адчування ўласнай годнасці. Дубы штовосень скідаюць сваё лісце, каб з наступнай вясны зноўку зелянець, яшчэ больш адужэўшы і расправіўшы плечы.

Раней тут быў калгас, пасля саўгас, цэнтр якога зноў калгас імя Мічурына, цэнтр якога недалёка - у Палушах. Ёсць крама, дзе можна купіць усё, што душа патрабуе. Хлеб, як сказаў нам дзядзька Іван, бацька Мар'яна, прывозяць з Астраўца. Хлеб смачны. Пасля мы пераканаліся. Была некалі пошта, прыёмны пункт раённага камбіната бытавога абслугоўвання... Сёння ў Дравяніках пошты няма, але кожны дзень, акрамя нядзелі і панядзелка, прыязджае паштовая машына. Таму "Рэгіянальную газету", як і "Астравецкую праўду", атрымліваюць мясцовыя жыхары своечасова.

## Пра жыхароў

Людзі працавітыя. Нехай іх вінавацяць у местачковым патрыятызме, але менавіта з нашага рэгіёна трэба браць прыклад барацьбітам за высокія надоі ды ўзорны парадак на панадворку. Уклад жыцця ў Дравяніках надзейны і трывалы, як брук, па якім хадзіла і ездзіла не адно пакаленне тутэйшых жыхароў.

## Пра імёны

Вядома, Франакі і Марыські тут былі заўсёды, як Юзікі, Мар'яны, Рэгіны, Гені. Яны і сёння тут жывуць. Бацькоў Мар'яна завуць цётка Рэня і дзядзька Іван. Чаму не Ян? Можа, таму, што і бацька бацькі таксама Іван. Проста мы, беларусы, мусім быць Янкамі, Яськамі, Іваськамі, Іванкамі, Іванамі не ў залежнасці ад таго, куды ходзім - у касцёл ці царкву. Такія мы ёсць.



## Яшчэ не вяселле

А дванаццатай гадзіне гасцей папрасілі за стол. Гэта яшчэ не было вяселле. Трэба проста прапіць хлопца. Прабачце, развітацца з яго халасцяцкім жыццём. Што было на сталах, расказваць не будзем,- усяго было. Будзеце каго жаніць у Дравяніках - пабачыце. Гасцей таксама было. З Беларусі ды Літвы. Найбольш - Вільні. Да якой сорак кіламетраў. Калі лесам, і таго бліжэй. Як госці з Вільні дабіраліся, расказваць не будзем,- сакрэт, але калі вельмі вас зацікавіць, прыедзьце і пры добрай чарцы мы можам павыдаваць усе сакрэты.

## Выкуп нявесты

Па-праўдзе кажучы, непасрэдна выкупу мы не бачылі. Апынуліся ў канцы працэсіі. Але што ведаем і пачулі, перакажам. Нявеста з Астраўца. Жанна. Навучае дзетак польскай мове. Наколькі мы зразумелі, жаніх усё ж выкупіў нявесту. Бо, урэшце, і тут усе апынуліся за сталом. Нявеста - самая малодшая ў суквецці трох сястрыц. Ружа, а не дзеўка! І дасталася не абы-каму, а нашаму Марэку. Праўда, калегі з "Астравецкай праўды" казалі, што Марэк - ён іх Марэк. Спрачацца не сталі. Хай будзе агульны. Харошы хлопец, а што,- кожнаму хочацца такога мець.

Але займела яго толькі Жанна.



## Роспіс. Вянчанне

Пасля было заключэнне грамадзянскага шлюбу ў Астравецкім ЗАГСе, віншаванні ад радні, знаёмых, калег, Саюза палякаў на Беларусі (Жанна навучае астравецкіх дзетак польскай мове), Саюза беларусаў на Беларусі ("Рэгіянальная газета"- заўвага рэд.) і іншых. Плошча перад ЗАГСам была як у былыя часы на першамайскае свята - дзень вяселляў і, здавалася, ці не ўсё мястэчка сышлося сюды.

Вянчаліся маладыя у касцёле ў Мястэчку. Астраўчанам не трэба тлумачыць, што Мястэчка - гэта мястэчка (у адрозненне ад станцыі) Гудагай. Нават на ўказальніку чыясьці добрая беларуская рука



не пасаромелася выбіць трафарэтам: "м. Гудагай". Пакуль жывуць мястэчкі, да таго часу загаловак нашага фотарэпартажу будзе знаходзіць сваіх прыхільнікаў.

## Анекдот. (Не пра нас з Мар'янам)

Хлопец хоча ўзяць шлюб, але перад тым яго добра пачаставалі і ён ну не вельмі ўпэўнена стаіць на нагах. Ксёндз абураецца:

— Ёстэсь п'яны.

— То моя справа,— адказвае прэтэндэнт на шлюб.

— То не дам ці шлюбу, — кажа сьвяты айцец.

— А то твоя справа,— парыруе маладзён.

Гэты анекдот расказалі гасцям два Валеры, два Французавічы - музыкі на вяселлі. Анекдот застаўся анекдотам, бо на тым вяселлі, дзе былі мы, усё было прыстойна.

## Вянчанне (працяг)

Сьвяты айцец не проста зрабіў момант вянчання сьвяточным і ўрачыстым. Не проста ўзяў словы клятвы ў вернасці жаніха нявесце, а нявесты - жаніху. Ён зрабіў так, каб усе пераканаліся яшчэ раз,- без любові на гэтым свеце нічога пабудаваць нельга:

— Любоў, гэта калі ты не хочаш нешта атрымаць, а хочаш аддаць. Італьянцы, прызнаючыся ў каханні, кажуць: я хачу, каб табе было добра.

Нехай у Жанны і Мар'яна так будзе.



## Вяселле

Вяселле пачалося. І цяжка сказаць, колькі працягвалася. Здаецца, што яно доўжыцца яшчэ па гэты час, проста мы мусілі ад'язджаць першымі, каб паспець зрабіць гэты фотарэпартаж у нумар. А чаму б не доўжыцца, калі гарэлкі і страў самых розных у дзядзькі Івана і цёткі Рэні не мерана, як не мерана цеплыні да ўсіх гасцей. Словам, там трэба было проста пабываць.

## Музыкі

Калі вы будзеце жаніцца самі, або жаніць свайго сына, лепшых музыкаў, чым з ашмянскай групы **"BANNYJ LIST"** (БАННЫЙ ЛІСТ), вам не знайсці.

Вы не знаеце Валеру Пячкоўскага і яго цёзку Валеру Бізюкойця з Ашмянаў? Дык што вы тады ведаеце ўвогуле? Пражыць і не пазнаёміцца з Французавічамі, гэта значыць пражыць жыццё дарэмна. Каб не было перад апошняй споведдзю балюча і крыўдна за пражытае ўпустую жыццё, хутчэй жаніцеся (ці жаніце кагосьці са сваякоў або знаёмых) і запрашайце на сваё вяселле "BANNYJ LIST". Мы не будзем расказваць, якімі байкамі і на якіх мовах частавалі музыкі вяселле, мы не будзем гаварыць, што пелі там песні па-беларуску, польску, руску, літоўску. Гэта трэба бачыць і ва ўсім удзельнічаць.

Скажам, што вяселле вялося выключна на самай зразумелай мове для прысутных, за што ад Саюза беларусаў на Беларусі ("Рэгіянальнай газеты"-заўвага рэд.) персанальны дзякуй ашмянчукам, за што мы вырашылі ўзнагародзіць іх



бутэлькай піва (кожнага - заўвага рэд.) "Рэгіянальнае". Чакаем прызёраў у сябе.

## Латарэя

Дарэчы, аб прызах. Гасцямі з Вільні на вяселлі была разыграна спецыяльная бяспройгрышная латарэя. Аднаму з нашай журналісцкай брыгады (не прызнаемся, каму) пашчасціла выйграць нават двухкамерны халадзільнік для захоўвання яек і інш. Пасярод двух камер была прымацавана прыгожанькая кветачка - якое ж вяселле без кветак? Халадзільнік выраблены на Вільнюскай фабрыцы надомнай працы і ў перакладзе на беларускую мову называецца: трусы мужчынскія, пам. 54, колер зялёны, афарбоўка трывалая. Яшчэ адзін "наш" выйграў ключ ад машыны - гаечны. Некаторым пашэнціла выйграць "бальзам Бітнера" - бутэлечку літоўскага піва.

## Развітанне

Яно было цёплым, як цёплым быў дзень 26 красавіка 1997 года. Аб чым мы сведчым, седзячы цяпер за сталом з дравяніцкімі пляшкамі і закусваючы астравецкай кілбаскай. Няхай усё ў жыцці Жанны і Мар'яна будзе добра, наступнага разу з задавальненнем збярэмся ў Дравяніках, спадзяемся, дзеля хрэсьбінаў. Маладыя сцвярджаюць, што першая ў іх будзе дачка. А як інача: ва ўсёй журналісцкай брыгадзе таксама першыя былі дочкі. Астатнія - таксама. Чым і ганарымся. Жыве Беларусь!

*Спецыяльная Вясельная брыгада "РГ", Маладзечна-Дравянікі-Маладзечна.*

*Фота Мікалая БАРАНА.*





# ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАННЯ

## Понедельник, 5 мая

**БТ** **8.00** Резонанс. **8.45, 17.50** Музобойма. **8.50** Телебарометр. **9.00** Здоровье. **9.30** М/ф. **9.50** Все мы родом из детства. **10.50** ОКО. **11.10** "Визит дамы". Спектакль. **12.30** Творцы. **13.00** Визит дамы. **14.15** Телеспорт. **15.00** Новости. **15.20** Видеокурс фр. языка. **15.50** На добрый лад. **16.10** Творцы. **16.50** Гости в дом. **17.20** По долгу службы... **17.55** Сериал "Портреты". **18.20** Фильм-концерт. **19.05** Х/ф "Верность". **20.30** Кто это? **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Х/ф "Ради нескольких строчек".

**1 ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.30** Новости. **8.15, 17.20** "Девушка по имени Судьба". **8.55** В.-А. Моцарт в программе "Приглашение к музыке". **9.20** Поле чудес. **10.20, 18.25** Джентльмен-шоу. **11.15** Х/ф "Секретный фарватер". 1-я с. **12.25** М/ф. **12.45** Футбольное обозрение. **13.15** Парижские тайны Э.Рязанова. **14.20** "Легенды острова сокровищ". М/ф. **14.45** Марафон-15. **15.05** Звездный час. **15.40** "Нико и его друзья". **16.10** "... До шестнадцати и старше". **16.35** "Вокруг света". **17.55** Погода. **18.00** Час пик. **18.55** "Трагедия века". Фильм 3-й. **19.45** "Спокойной ночи, малыши!" **20.00** Время. **20.45** Х/ф "Золотые рыбки". **21.15** "Жизнь замечательных людей". **21.50** Х/ф "Лекарство против страха".

**РТР** **7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** С добрым утром! **8.05** "Клубничка". **8.35** Сам себе режиссер. **9.10, 18.05** "Санта-Барбара". **10.15** Анонимные собеседники. **10.40** Графоман. **10.55** "На всю оставшуюся жизнь". Х/ф. 1-я с. **12.10** В мире животных. **12.35** Ретро-шлягер. **13.25** Автограф. **13.30** "Судьбы". А.Маресьев. **14.10** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **14.50** Вместе. **15.20** Эксповестник. **15.30** Клубничка. **16.15** Там-там новости. **16.25** Лукоморье. **16.50** Посмотри на себя. **17.00** "Красная книга". **17.15** Пульс. **17.45** Россияне. **19.35** Добрый вечер. **20.20** "Дом свиданий". Х/ф. **22.35** "На коне". **22.50** Дежурная часть. **23.15** Частная коллекция.

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10, 19.20** "История любви". **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.35** Советы садоводам. **14.10** Международное обозрение. **14.40** Телефильм. **15.10** Овертайм. **15.40, 20.45** Телеслужба безопасности. **16.10** "Закулисье". **16.50** Детское ТВ. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **20.10** Касается всех. **21.00 Кубок Англии по футболу.**

**НТВ** **5.00** Сегодня утром. **9.15** Утречко. **9.30** Х/ф "Третья девушка слева" (США). **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Открытый мир. **13.20** Большое "Времечко". **15.35** Дистанция 60. **16.35** Х/ф "Голубое дерево". **17.30** Футбольный клуб. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Чайки летают низко" (Италия). **21.45** "Крутой Уокер: правосудие по-техасски". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.20** Ночное "Времечко".

**TV6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45** 6 новостей. **6.10, 16.35, 23.10** Диск-канал. **6.40, 13.20** М/ф **7.10, 17.10, 23.00** Дорожный патруль. **7.30, 13.05** 90х60х90. **7.45, 10.20, 17.00** Аптека. **8.10** Киноподробно. **8.30** ОСП-студия. **9.20** Ералаш. **9.50** Спорт недели. **11.00** Обозреватель. **11.45** Кувалда. **14.00** Последние залпы. **19.05** Музыка и пресса. **20.15** Х/ф "Человек ниоткуда". **21.45** Шоу Бенни Хилла. **22.15** Катастрофы недели.

## Вторник, 6 мая

**БТ** **8.00** Д/ф. **8.20** Ровод. **8.35, 17.25** Музобойма. **8.40** Х/ф "Звонят, откройте дверь". **9.55** М/ф. **10.40** Д/ф. **11.00** Творцы. **11.30** "Парашюты на деревьях". Х/ф. **13.45** *Мотоспорт.* **14.15** Спектакль. **15.00** Новости. **15.20** "Радуница". Х/ф. **16.35** Все про все. **17.00** Остров вдохновения. **17.30** Познай себя. **18.00** Тема дня. **18.30** Сделано в Беларуси. **18.45** Музыка без границ. **19.10** Х/ф "Ксения, любимая жена Федора". **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Х/ф "Прощай, шпана замоскворецкая..." **23.35 Третий тайм.**

**1 ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.55** Новости. **8.15, 17.20** Девушка по имени Судьба. **8.55** Смехопанорама. **9.40** М/ф. **10.30, 18.25** Угадай мелодию. **11.15** "Секретный фарватер". 2-я с. **12.25** М/ф. **12.45** Служу России! **13.15** Парижские тайны Э. Рязанова. **14.20** М/ф. **14.45** Кварьете. **14.55** Мультитроллия. **15.15** Волшебный мир, или Синема. **15.40** "Нико и его друзья". **16.10** ... До 16 и старше. **16.35** Вокруг света. **18.00** Час пик. **18.55** "Трагедия века". 4-й. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф "Хроника пикирующего бомбардировщика". **22.15** Театр + ТВ.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** С добрым утром! **8.05, 15.30** Клубничка. **8.35** Караоке. **9.10, 18.05** "Санта-Барбара". **10.15** Пульс. **10.45** Графоман. **13.25** Автограф. **13.30** Арена для сенсаций. **13.55** Ваше право. **14.10** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **14.50** Образ жизни. **15.20** Эксповестник. **16.15** Там-там новости. **16.25** Лукоморье. **16.50** Посмотри на себя. **17.00** Красная книга. **17.15** Содружество. Сообщество. Союз. **17.45** Россияне. **19.35** Добрый вечер. **20.20** Х/ф "Чудаки". **22.30** Звездный дождь в Каннах. **22.40** Момент истины. **23.05** Звуковая дорожка.

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10, 19.20** "История любви". **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.35** Советы садоводам. **14.10** Спортивная семья. **14.45** "Инцидент". Х/ф (США). 1-я с. **15.40, 20.45** Телеслужба безопасности. **16.05** Телекомпакт. **16.45** Детское ТВ. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **20.15** Храм. **21.00** "Инцидент". Х/ф. **22.05** Событие. **22.20** Спорт. **22.30** Парадоксы истории.

**НТВ** **5.00** Сегодня. **9.15** Утречко. **9.30** Х/ф "До и после" (США). **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Открытый мир. **13.20** Времечко. **15.35** Дистанция 60. **16.35** "Голубое дерево". Х/ф. **17.30** Улица Сезам. **18.00, 21.00** Сегодня. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Потаскуха" (Фр). **21.45** "Крутой Уокер". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня. **23.20** Времечко. **24.00** Меломания: Концерт Сонни Роллинса.

**TV6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45** 6 новостей. **6.10, 16.35, 23.15, 0.20** Диск-канал. **6.40, 13.20** М/ф **7.10, 17.20, 23.00** Дорожный патруль. **7.20** Рецепты от Цептер. **7.30, 13.05** 90х60х90. **7.45, 10.10, 17.10** Аптека. **8.10** Телеконкретно. **8.30** Пальчики оближешь. **9.05** Клуб одиноких сердец. **9.40** Вы — очевидец. **11.00** Кувалда. **14.00** Х/ф "Крепкий орешек". **19.05** Профессия. **20.15** "Династия II". **21.10** Те Кто. **21.40** "Ангелы смерти". **22.35** Шоу Бенни Хилла.

## Среда, 7 мая

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 17.50** Музобойма. **7.50, 17.40** Экономикст. **8.00** Усадьба. **8.30** ТДК. **9.00** ТВ — школе. **9.35** Все дело в шляпе. **10.05** Бездельник. **10.35** Акколада. **11.05, 18.20** Знаменитые побеги. **11.55 Видимо-невидимо**. **13.00, 15.00, 18.00, 23.30** Новости. **15.15** Видеокурс. **15.45** Телек-шоу. **16.30** Гости в дом. **17.00** Музантракт. **17.10** Марсово поле. **19.15** Тема дня. **19.45** Темная комната. **20.10** Это моя работа. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.45** Цептер. **21.50 Авто-парк.** **22.05** "Они сражались за Родину". Х/ф. 1-я с. **23.40** Королевская охота.

**1 ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.15** Новости. **8.15, 17.20** Девушка по имени Судьба. **8.55** Чтобы помнили... **9.35** В мире животных. **10.10** М/ф. **10.30, 18.25** Угадай мелодию. **11.15** "Секретный фарватер". **14.20** М/ф. **14.45** Кактус и К. **14.55** До-ми-соль. **15.15** Зов джунглей. **15.40** Нико и его друзья. **16.10** ... До 16 и старше. **16.35** Вокруг света. **18.00** Час пик. **18.55** Трагедия века. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф "Весна на Заречной улице". **22.30** Песня-96.

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** С добрым утром! **8.05, 15.30** Клубничка. **8.35** L-клуб. **9.05** Подиум. **9.45** М/ф. **10.15** СССоюз. **10.40** Графоман. **10.55** "На всю оставшуюся жизнь". Х/ф. **14.10** Иванов, Петров, Сидоров и др. **14.50** Избранные. **15.20** Эксповестник. **16.15** Там-там новости. **16.25** Лукоморье. **16.55** Футбол. **19.35** Добрый вечер. **20.20** Концерт. **22.30** Канны. **22.40** Телетеатр. **23.15** Кафе "Обломов".

**5** **11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **12.10, 19.20** "История любви". **13.00** Срок ответа — сегодня. **13.35** Советы садоводам. **14.10** Телефильм. **14.45, 21.05** Инцидент. **15.35, 20.45** Телеслужба безопасности. **16.10** Еще одна Россия. **16.55** Равняется любовь. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **20.15** Фрахтовый агент. **22.05** Событие. **22.20** Спорт. **22.30** В ожидании "Парсифаля". **22.40** Телекомпакт.

**НТВ** **5.00** Сегодня. **9.15** Утречко. **9.30** "Доктор Куин". **10.30, 17.30** Улица Сезам. **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Открытый мир. **13.20** Времечко. **15.35** Дистанция 60. **16.35** "Голубое дерево". **18.00, 21.00** Сегодня. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Маленькая Одесса". **21.45** "Крутой Уокер". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня. **23.20** Хоккей.

**TV6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.05, 22.45** 6 новостей. **6.10, 16.35, 23.15, 0.25** Диск-канал. **6.40, 13.20** М/ф. **7.10, 17.20, 23.05** Дорожный патруль. **7.20** Рецепты. **7.30, 13.05** 90х60х90. **7.45, 10.15, 17.10** Аптека. **8.10** Частный случай. **8.30** Обоз. **9.25, 20.20** "Династия II". **11.00** Кувалда. **14.00** Х/ф "Антоша Рыбкин". **19.05** Я сама. **21.15** Те Кто. **21.45** "Лев и единорог". **22.40** Шоу Бенни Хилла.

## Четверг, 8 мая

**БТ** **7.30** Утренний коктейль. **7.45, 17.50** Музобойма. **7.50, 17.40** Экономикст. **8.00, 13.00, 15.00, 18.45, 23.30** Новости. **8.10 Автопарк**. **8.20** Бархатный сезон. **8.50** Гости в дом. **9.25** Королевская охота. **10.05** 4-е измерение. **10.25** Око. **10.45** Х/ф. **11.40** АРТ-клуб. **12.20** Зорная ростань. **15.15** М/ф. **15.30** Переход. **16.00** Телебом. **16.30** Родное слово. **17.00** Музантракт. **17.10** Ур Н.Новожиловой. **17.55** Концерт. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **21.50** Телебарометр. **22.05** "Они сражались за Родину". **23.45** Крок.

**1 ОРТ** **8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.10** Новости. **8.15, 17.20** "Девушка по имени Судьба". **8.55** Смак. **9.10** Клуб путешественников. **9.55** М/ф. **10.30, 18.25** Угадай мелодию. **11.15** "Секретный фарватер". **14.20** М/ф. **14.45** Остров Чунга-Чанга. **15.10** Лего-го! **15.40** Нико и его друзья. **16.10** "... До 16 и старше". **16.35** Вокруг света. **18.00** Час пик. **18.55** Трагедия века. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.45** Х/ф "Белорусский вокзал".

**РТР** **7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Вести. **7.15** С добрым утром! **8.05, 15.30** "Клубничка". **8.35** Бесконечное путешествие. **9.10, 18.05** "Санта-Барбара". **10.15** Графоман. **10.30** "На всю оставшуюся жизнь". Х/ф. 3-я и 4-я с. **14.10** Иванов, Петров, Сидоров и другие. **14.50** На пороге века. **15.20** Эксповестник. **16.15** Там-там новости. **16.25** Лукоморье. **16.50** Посмотри на себя. **17.00** "Темная" для С.Филатова. **17.15** СССоюз. **17.45** Россияне. **19.35** Добрый вечер. **20.20** Актриса. **22.30** Звездный дождь в Каннах. **22.40** Царская ложа. **23.20** По вашим письмам.

**5** **13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **14.00** Праздничный концерт. **15.00, 19.20** "История любви". **16.10** М/ф. **16.20** Наобум. **16.55** Детское ТВ. **18.40** Большой фестиваль. **19.15** Спорт. **20.15** Черный кот. **20.45** Телеслужба безопасности. **21.10** Если б знали вы... **22.05** Событие. **22.20** Спорт. **22.30** Как быть любимыми. **23.00** Парад парадов.

**НТВ** **5.00** Сегодня утром. **9.15** Утречко. **9.30** "Доктор Куин, женщина-врач". **10.30, 17.30** "Улица Сезам". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Открытый мир. **13.20** Большое "Времечко". **15.35** Дистанция 60. **16.35** Х/ф "Голубое дерево". **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** Герой дня. **19.05** Х/ф "Ас из асов" (Франция). **21.45** "Крутой Уокер: правосудие по-техасски". **22.40** Времечко. **23.00** Сегодня в полночь. **23.20** Ночное "Времечко". **0.00** Х/ф "Под солнцем сатаны" (Франция).

**TV6** **6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 23.30** 6 новостей. **6.10, 16.35, 0.00** Диск-канал. **6.40, 13.20** М/ф **7.10, 17.20, 23.45** Дорожный патруль. **7.20** Рецепты. **7.30** 90х60х90. **7.45, 10.15, 17.10** Аптека. **8.10** Частный случай **8.30** Назло рекордам. **8.55** Библия на чертежной доске. **9.25, 20.15** "Династия II". **10.25** Находкин блюз. **11.00** Кувалда. **12.00** От всей души. **14.00** Х/ф "Законный брак". **19.05** Сделай шаг. **21.10** Те Кто. **21.40** Х/ф "Я — русский солдат".

## Пятница, 9 мая

**БТ** **8.00** Фильм-концерт. **8.20** Д/ф. **8.45, 16.20** Музобойма. **8.50** Творцы. **9.10** Афганистан. **10.40** О времени и о себе. **11.05** Киноконцерт. **11.25** Подруги. **12.00** Так это было... **12.20** М/ф. **12.45** Телеочерк. **13.10** "Полесовщик". **13.35** Х/ф "Два бойца". **15.00** Новости. **15.35** Колесо времени. **15.55** В джазе только девушки. **16.25** Х/ф "Мир входящему". **17.50** Минута молчания. **18.00** Республиканский фестиваль. **20.05** ТД кино. **20.40** Колыбельная. **21.00** Панорама. **22.00** Салют Победы. **22.20** "Последний штурм". Х/ф. **23.45** Акколада.

**1 ОРТ** **6.00** Доброе утро. **8.50** Военный парад. **9.55** Х/ф "Беспокойное хозяйство". **11.25** Служу России! **12.00** Фильм-спектакль. **14.00** Новости. **14.20** Играй, гармонь! **15.10** М/ф. **15.25** Несколько мгновений войны. **16.15** Х/ф "В 6 часов вечера после войны". **17.50** Минута молчания. **18.05** Любэ. **19.05** Трагедия века. **20.00** Время. **20.45** Поле чудес. **21.50** Х/ф "На войне как на войне". **23.30** Сюрприз для АБ.

**РТР** **7.00** С добрым утром! **8.00** Там-там новости. **8.20** Д/ф. **8.50** Парад. **9.50** "Жила-была девочка". Х/ф. **11.00** М/ф. **11.20** Спектакль. **14.45** Россия в войне. **15.35** "Варварин день". Х/ф. **16.45** Видеофильм. **17.10** Тихий дом. **17.40** Д/ф. **17.50** Минута молчания. **18.05** Праздничная встреча с Б. Окуджавой. **19.00** Вести. **19.35** Добрый вечер. **20.25** "Майские звезды". Х/ф. **22.05** Песни военных лет. **22.55** Ночной экспресс. **23.35** "Баритон". Х/ф

**5** **9.00** Честь имею. **9.35** Телеспектакль. **10.30** Никто не забыт. **12.00** Мы любим эти песни. **12.20** "Подранки". Х/ф. **13.55, 15.55, 18.55, 21.55** Информ ТВ. **14.15** "Небесный тихоход". Х/ф. **15.30** Телефильм. **15.40** Г. Орлов. **16.10** ДетТВ. **17.00** Трансляция с Дворцовой площади. **17.50** Минута молчания. **19.20** "Французский вальс". Премьера С. Микаэляна. **20.55** Любэ. **22.10** Парад парадов. **22.55** "До свидания, мальчики". Х/ф.

**НТВ** **7.00** Сегодня. **9.15** "Концерт — фронту. 1942г." **9.30** Д/ф "Восточный фронт 1939 — 1945гг.". 1-я с. (Россия - Великобритания). **10.30** "Улица Сезам". **11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем. **11.20** Д/ф "Восточный фронт 1939 — 1945гг.". 2-я с. **12.20** "Боевые киносборники 2,7.1941г." **13.20** Д/ф "Восточный фронт 1939 — 1945гг.". Закл. серия. **14.20** Киноконцерт "Мы ждем вас с победой. 1943г." **15.20** "Боевой киносборник 7. 1941г." **15.50** Х/ф "Подсолнухи" (Италия-Франция-Россия). **17.40** "За други своя..." **17.50** Минута молчания. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.40** "Концерт — фронту. 1942г." **19.15** Х/ф "Военно-полевой роман". **21.45** Х/ф "Враги: история любви" (США). **23.55** Владимир Спиваков и "Виртуозы Москвы".

**TV6** **7.05, 13.20, 20.20, 22.10** 6 новостей. **7.15, 22.25** Дорожный патруль. **7.30** М/ф. **8.30** Мое кино. **9.15** Ералаш. **9.40** Х/ф "Телеграмма". **11.20** Хроника. **11.45** Неизвестная война. **13.40** Фильм-концерт. **14.20** Х/ф "Чистое небо". **16.40** Господа офицеры. **18.50** Х/ф "Два бойца". **20.35** Х/ф "Женя, Женечка и катюша". **22.35** Х/ф "Спасительная пустыня".

## Суббота, 10 мая

**БТ** **8.00** Телебарометр. **8.15** Здоровье. **8.45** Остров вдохновения. **9.15** М/ф. **9.35** Теннис. **10.05** Ур Н.Новожиловой. **10.35 Регион**. **11.05** Судьба моя и надежда. **11.35** Зеркало. **11.55** Музобойма. **12.10** Вселенная. **12.40** Многоголосие. **13.10** Телеочерк. **13.40** Телеспорт. **14.25** Вечерки. **15.00, 21.00** Новости. **15.20** Все мы родом из детства. **16.15** Риск-версия. **16.45** Зорная ростань. **17.20** Белорусский дом. **17.50** Галерея. **18.25** Х/ф "Аты-баты, шли солдаты..." **19.50** Киноконцерт. **20.15** История любви. **20.40** Колыбельная. **21.45** Теленавигатор. **22.05** Х/ф "Был месяц май". **24.00 Видимо-невидимо.**

**1 ОРТ** **7.00** Х/ф "Кадкина всякий знает". **8.20** М/ф. **8.40** Лотто-Миллион. **8.45** Домашняя библиотека. **9.00, 14.00** Новости. **9.10** Слово пастыря. **9.30** С утра пораньше. **10.00** Утренняя почта. **10.40** Смак. **11.00** Возвращение Третьяковки. **11.25** Боевой киносборник. **12.45** Поехали! **13.25** Очевидное — невероятное. **14.20** М/ф. **15.10** В мире животных. **15.55** Футбол. **17.50** КВН-Ассорти. **18.20** Л. Гурченко. **18.55** Трагедия века. **19.45** Спокойной ночи, малыши! **20.00** Время. **20.55** Белый попугай. **21.50** Х/ф "Мефисто".

**РТР** **7.00** Утренний экспресс. **8.05** Меморина. **8.30** Адреналин. **8.45** Доброе утро, страна! **9.30** В мире животных. **10.00** Вести в 11. **10.15** Хочу в артисты. **10.55** Романсиада-97. **11.05** Лучшие игры НБА. **12.00** Пятое колесо. **12.30** Поэт в России. **13.00** Вести про... **13.25** Россия в войне. **14.15** Караоке. **14.45** Двойной портрет. **15.15** Бесконечное путешествие. **15.40** Легенды Большого. "Возвращение Петипа". **16.35** Мужчина и женщина. **17.15** Телескоп. **17.55** Субботний вечер с В. Машковым. **19.00** Вести. **19.35** Сам себе режиссер. **20.10** "Зося". Х/ф. **21.30** Момент истины. **22.25** Репортер. **22.45** Программа "А".

**5** **9.05** Телефильм. **9.30** Хуторок. **10.05** М/ф. **10.25** "Вампиры, птицы-дьяволы и духи". Телесериал о природе (Вел). **11.20** Наобум. **11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Информ ТВ. **12.10** Театр Ю. Панича. **14.10** Еще одна Россия. **14.40** Театральная провинция? **15.10** Исторические расследования. **16.10** Спорт. **16.30** Лотто-бинго. **18.40** Большой фестиваль. **19.25** "Генерал". Х/ф. **21.05** Светская хроника. **21.20** Блеф-клуб. **22.00** Парад парадов. **22.45** Экспресс-кино. **23.05** "По главной улице с оркестром". Х/ф.

**НТВ** **7.00** Сегодня утром. **9.00** М/ф. **9.30** Телеигра "Пойми меня". **10.00** Х/ф "Легенда о затерянном городе". **10.45** От "Винта". **11.00, 15.00** Сегодня днем. **12.00** Хоккей. **14.30** "Панорама" с В. Овчинниковым. **16.00** Русский альбом. **16.30** М/ф **17.00** Новости Голливуда. **17.30** Дог-шоу. **18.00, 21.00** Сегодня вечером. **18.30** Герой дня без галстука. **19.00** Х/ф "**Кошмар на улице Вязов**". Фильм 1-й (США). **20.45** "Куклы". **21.45** Х/ф "Несут меня кони..." **23.35** Футбольный клуб. **0.25** Плейбой-шоу.

**TV6** **7.05** "Шесть новостей". **7.15, 23.40** Дорожный патруль. **7.30** Х/ф "Семнадцать мгновений весны". 1-12-я с. **23.55** Концерт "Для вас, ветераны".

## Воскресенье, 11 мая

**БТ** **8.00** Коктейль по воскресеньям. **9.00** Телебом. **9.30** Мультиклуб. **10.00** Вершина мира. **10.30** Все нормально, мама! **11.00** М/ф. **11.20** Арсенал. **11.50** Война в воздухе. **12.15** Сельчане. **12.45** Остров вдохновения. **13.35** Сущность. **14.05** Олимп. **14.30** Золотые ключи. **15.00** Новости. **15.15** Бон тон. **15.45** "Уникум". Тест-игра. **16.20** Музыкальный салон. **17.15** Оскар. **17.50** Х/ф "Двое в новом доме". **19.10** Бездельник. **19.40** Колыбельная. **20.00** Резонанс. **20.50** СТК. **21.10** Телебарометр. **21.25** Карамболь. **22.00** Х/ф "Расемон" (Яп). **23.30** Бархатный сезон.

**1 ОРТ** **7.00** Х/ф "Дерзость". **8.40** М/ф "Добрыня Никитич". **8.55** Спортлото. **9.00, 14.00, 22.25** Новости. **9.10** Непутевые заметки. **9.30** Пока все дома. **10.10** Утренняя звезда. **11.00** Очевидное — невероятное. **11.30** Играй, гармонь! **12.00** Сельский час. **12.25** Подводная одиссея команды Кусто. **13.25** Смехопанорама. **14.15** Приглашение к музыке. **14.45** Клуб путешественников. **15.35** Мультфейерверк. **16.20** 1 на 1. **16.50** Футбольное обозрение. **17.20** Как не любить мне эту землю. **19.00** Трагедия века. **19.50** Киноафиша. **20.00** Время. **20.40** Х/ф "Летят журавли". **22.40** Х/ф "Охотник за нацистами".

**РТР** **7.00** Утренний экспресс. **7.55** Ле Монти. **8.10** Солти. **8.35** У всех на устах. **8.50** Доброе утро, страна! **9.30** Присяга. **10.00** Вести в 11. **10.15** Русское лото. **10.55** Без пяти 12. **11.00** Книжная лавка. **11.25** Человек на Земле. **11.55** Сад культуры. **12.20** Спутниковый альянс. **12.25** Наш сад. **13.00** Вести. **13.20** Запомни этот миг. **14.00** М/ф "Чокнутый", "Аладдин". **14.55** Репортаж ни о чем. **15.10** Довгань-шоу. **15.40** Весь мир. **16.20** Вечер с А.Гурновым. **16.40** Один против всех. **17.00** Ситуация. **17.20** L-клуб. **17.50** РТР в гостях у телезрителей. **18.10** Аншлаг. **18.45** Гороскоп. **19.00** Зеркало. **20.00** "**Городок**". **20.35** Футбол без границ. **21.10** "К-2" представляет: "Коллизей". **22.05** У Ксюши. **22.35** "Рим. Открытый город". Х/ф (Ит). **0.20** Ночная жизнь городов мира.

**5** **8.30** Целительное слово. **9.05** Папа, мама и я — спортивная семья. **9.35** Овертайм. **10.05** М/ф. **10.30** Леопард. Тень в траве. **11.20** Роман с героем. **11.55, 13.55, 15.55, 18.55** Обратный отсчет. **12.10** "Солдат и слон". Х/ф. **13.30** Оперная сенсация. **14.10** Еще одна Россия. **15.10** Многая лета. **16.10** Спорт. **16.40** ДетТВ. **18.40** Большой фестиваль. **19.20** "На кого бог пошлет". Х/ф. **20.35** Сокровища СПб. **20.55** У всех на виду. **21.10** Ноу смокинг. **21.55** Международное обозрение. **22.35** "Спецотряд "NAM". Х/ф (США).

**НТВ** **7.00** Сегодня. **9.00** Устами младенца. **9.30** Пойми меня. **10.00** Х/ф "Дети против монстров" (США). 1-я с. **10.45** От "Винта". **11.00, 15.00** Сегодня. **12.00** Книжный магазин. **12.30** Маски-шоу. **13.00** Каролина в Нью-Йорке. **13.30** Алло, Фима! **13.45** Недотепы. **14.00** Время "Ч". **14.30** Своя игра. **16.00** Х/ф "Месье Ир" (Фр). **17.30** Русские гвозди. **18.00** Сегодня. **18.30** Х/ф *"Игра воображения"*. **20.00** Итоги. **21.10** Хоккей. **23.25** 3-й глаз. **0.05** Плейбой-шоу.

**TV6** **7.00, 16.45** 6 новостей. **7.10** Дорожный патруль. **7.25** М/ф. **8.05** Цептер-приз. **8.15** Х/ф "Белый клык". **9.55** Пальчики оближешь. **10.30** Назло рекордам. **10.55** Дикая природа Австралии. **11.55** Марк Бернес. **12.05** Канон. **12.35** Музыка и пресса. **13.30** Сделай шаг. **14.25** Спорт. **14.55** М/ф. **15.50** "Затерянный мир". **16.55** Мое кино. **19.05** Фитиль. **19.25** Х/ф "Наградить (посмертно)". **21.00** Шоу Бенни Хилла. **21.40** Диск-канал. **23.25** PARTY ZONE.

